**Варшаўскіе газэты** апошнімі днямі ў Менску вельмі падаражэлі. Польскіе газэты прадаюцца па 1 мар. 50 ф., жыдоўскіе і расійскіе—па 3 маркі.

**Санітарнае становішчо места** ў зьвязку з набліжэньнем вясны, яшчэ болей пагоршылося. Дамаўласьнікі зусім не ачышчаюць сваіх двароў. Не выдаець належных загадаў і мясцовая ўлада. Паміж тым, эпідэміі з кожным днём усё болей павялічываюцца.

**Фабрыка сярнічак** хутка пачне працаваць у Менску. Гэтая фабрыка пераведзена з Койданава. На гэтай фабрыцы маюць выраблядь што тыдзен да 200 скрынак сярнічак.

**Эшалон комуністаў**, якіе былі ў польскіх турмах, трэцьцяга дня здпраўлены з Менску на дэмаркацыйную лінію дзеля абмену на польскіх закладнікаў.

**Асьвятленьне вуліц** м. Менску робіцца дзеля капрызу кіраўнікоў электрычнай станцыяй так, што цяпер, калі на вуліцах стаяць вялікіе лужы і навалены лёд, а ночы цёмные і туманные, ня ўсе вуліцы асьвятляюцца і людзі бродзяць у поцемках, спатыкаючыся і падаючы.

---

## Беларускі тэатр.

8-га сакавіка адбылося адчыненьне клюбу „Т-ва Працаўнікоў Беларускага Мастацтва" ў памяшчэньні „Беларускай Хаткі" на Конным пляцы. Ставілі камэдыю М. Кудзелькі „Мікітаў лапаць". Камэдыя якраз пад густ тае рознастайнае публікі, каторая зьбіраецца ў „Хатку". Добра граў сам аўтор камэдыі ў ролі Мікіты і, як заўсюды, прыемна вызначалася сваёю ігрою ў ролі маладзіцы-суседкі Лабаноўская.

Мусім адзначыць, што трэба заўсюды шанаваць чыстату мовы. Пабеларуску ня можна сказаць—*дзявалася, пабіў*, а трэба дзеўся, набіў ці зьбіў. *Пабіць* можна шклянку, міску, пляшку, а не чалавека.

Увага, што да сялянскіх гарнітараў. Беларусы ня носяць сарочак паверх нагавіц, а калі гдзе і носяць, дык гэта не характэрна для беларусаў. Гэтак сама беларус ня ведае сарочкі з вышыванай грудзінай, гэта—украінізм. Беларус носіць сарочку заўсюды ў нагавіцах, і толькі старые дзяды на старасьці носяць гэтак сарочкі, як мы бачылі ўчора на сцэне. Трэба прыглядацца да народу і ўмець лавіць тыпічные рысы.

Як прыемную навіну тэатру, трэба адзначыць беларускую дэкорацыю работы Я. Драздовіча. Вясковая вуліца вышла вельмі добра. Гэта трэба паставіць у заслугу „Т—у Працаўнікоў Бел. Мастацтва".

Трэба спадзявацца, што спэктаклі і вечарынкі Т-ва будуць цешыцца шырокімі сымпатыямі акраіннай публікі, каторай гэтак патрэбна харошая і навучаючая беларуская сцэна.

Я. К.

---

*Рэдактар—Я. ЛЁСІК.*

*Выдавец — Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт.*



## Абвестка.

Асобы, якіе выяжджаюць з Менску па чыгунцы—ад 10-га сакавіка—павінны, купляючы білет, паказаць пасьведчаньне аб тым, што ў працягу апошніх двух дзён былі ў лазьні і што іх вопратка і бяліана былі дэзынфэцыраваны.

Трэба быць у лазьні Плаўскага, Валоская вул. (Крашчэнская) № 25, дзе так само будуць выдаваць пасьведчаньні аб дэзынфэкцыі за плату 50 фэн. Асобы, ня маючые пасьведчаньняў, бязумоўна ня будуць выпушчаны на пэрон; так сама чыгуначные білеты прадавацца ня будуць.

У вагонах у дарозе будзе рабіцца кантроль, і асоб, якіе ня маюць пасьведчаньняў, пакінуць на бліжэйшай станцыі, дзе ёсьць дэзынфэкцыйны апарат.

**Д-р Г. Х. Кржаноускі**
**н. о. санітарнага інспэктара.**



З дазв. вайсков. цэнзуры № 50, 5/ш. Менск. Друкарня Інвалідаў.